# ШУМАФОНІЯ




До-рэ-мі-фа-соль-ля-сі-до. У гэтай звязцы сямі нот крыецца невычэрпнасць гукавых варыяцый, рытмаў. Ці ж не дастаткова іх, каб задаволіць прагу сучаснага меламана?

Катэгарычна — НЕ! Так заявіў восемдзесят гадоў таму Луіджы Русола (1885 — 1947).

Ён паходзіў з музычнага сямейства, але не імкнуўся, як яго бацькі, атрымаць прафесійную адукацыю дзеля заробку і прэстыжнага жыцця. Прыехаўшы ў Мілан, ён адразу далучыўся да невялікага гурту мастакоў-футурыстаў і хутка прыдбаў вядомасць аднаго з самых эксцэнтрычных сярод іх. Без вагання ставіў подпісы пад скандальнымі творчымі маніфестамі, без страху перад нядобразычлівай крытыкай і кансерватыўнай публікай удзельнічаў у першых футурыстычных выставах выяўленчага мастацтва. А ў 1913 годзе вырашыў уласнаруч здзейсніць сапраўдны пераварот у галіне музыкі.

Тагачасныя музыканты-прафесіяналы больш за ўсё баяліся «сфальшывіць» у гармоніі, адчайна трымаліся традыцыйнага разумення чысціні гукаў. Луіджы Русола дзёрзка пайшоў на парушэнне ўсіх канонаў. Ён ушчэнт пабурыў законы «музычнага сінтаксісу» і задэкляраваў поўную свабоду ў яго «знішчэнні» дзеля ўзбагачэння музычнага грунту новымі крыніцамі інспірацыі. І гэтым паклаў экстраардынарныя пачаткі сучаснай наватарскай музыкі.

Развіты ад натуры музычны слых Луіджы Русола па-свойму ўражліва ўлоўліваў багацце таго, што раней ніколі не лучылася з музыкай — разнастайную прыроду шумоў, актывізаваную развіццём еўрапейскай цывілізацыі; і гэта падштурхнула яго да ідэі скарыстання шумоў у музычных мэтах.

Луіджы Русола пачуў і ўсвядоміў самае сутнаснае з акустычнай характарыстыкі кожнага прадмета, з'явы, істоты. Усё мае свой кодавы ключ да гука-вобразнага адтварэння — гэта шум, які ўзнікае ад дотыку, штуршка, руху... Нават адвольнае наслаенне тых шумоў, што ўспрымае вуха, гучыць, як какафонія горада, фабрыкі, аэрадрома. А што можа атрымацца, калі іх свядома прылучыць да шумавой партытуры?

Каб адказаць на гэтае пытанне, Луіджы Русола стварае яшчэ небывалы ў практыцы музыкаў інтанатар шумоў (па-італьянску — інтонаруморы). Інтанатар уяўляў сабой нешта накшталт набору розных памераў скрыняў з прымацаванымі да іх як бы грамафоннымі трубамі-конаўкамі. Шматлікімі рычагамі, ручкамі-круцёлкамі і іншымі прыстасаваннямі Луіджы Русола інтэрпрэтаваў на сваім інтанатары розныя вядомыя і цалкам ні на што непадобныя шумы і ўтвараў з іх сваю экстравагантную рытмічнасць. Ён не без скандальнага поспеху выступаў на шматлікіх канцэртах у Італіі і за яе межамі. Сваім адкрыццём Луіджы Русола па сутнасці ініцыраваў многія наступныя новаўвядзенні ў музыку, якая надалей ужо не збіралася адставаць ад тэхнічнага прагрэсу, аб чым сёння сведчаць электраінструменты, усялякія магчымыя сінтэзатары, узмацняльнікі.



Л.Русола (злева) са сваім асістэнтам Піяцці выпрабоўваюць інтанатар шумоў.




Умбэрта Бачоні. «Карыкатура на Л. Русола», 1912г.

Многае мадэрнізавалася, тэхнічна ўдасканалілася ў музычных інструментах параўнальна з пачаткам стагоддзя, а вось тэарэтычны маніфест футурыста ад музыкі Луіджы Русола («Мастацтва шумоў», 1913 г.) па-ранейшаму застаецца ў авангардзе на шляхах пошуку да свабоднага самавыяўлення ўсіх, хто не трывае руціны і мае намер «нарабіць шуму», і не толькі ў музыцы. Ягоны маніфест і сёння выглядае так, як быццам толькі што напісаны для ўжытку нашае творчае грамады, дзе гараць пошукамі мадэрнізацыі, перамен і музыканты, і мастакі, і паэты. Таму бум-трах-бахмяў-гаў-ах на ўсе лады. Хай шырацца шумы, уласцівыя працэсам наватарскіх пошукаў і эксперыментаў.

Яўген ШУНЕЙКА.

Луіджы РУСОЛА

# МАСТАЦТВА ШУМОЎ

/.../ Жыццё мінуўшчыны было цішынёй. Толькі ў дзевятнаццатым стагоддзі, разам з вынаходніцтвам машын, нарадзіўся шум. Сёння шум трыумфуе і ўладна пануе над уражлівасцю людзей.

На працягу шматлікіх стагоддзяў жыццё праходзіла ў цішы або сярод прыглушаных танацыяў. І найбольш чутныя шоргаты не былі ані інтэнсіўныя, ані доўгатрывалыя ці разнастайныя. Таму што за выключэннем рэдкіх землятрусаў, бураў, навальніцаў, лавінаў і вадаспадаў прырода маўчала.



На першай мастацкай выставе футурыстаў 30 красавіка 1911 года экспанаваўся графічны твор Луіджы Русола «Ф.Ніцшэ».

Гэтае панаванне цішыні было прычынай таму, што першыя тоны, якія чалавек здолеў вынайсці з выразанага чароту ці нацягнутага шнура, выклікалі ў яго здзіўленне, як вартая і годная захаплення з'ява. Першабытныя народы прыпісвалі гуку боскае паходжанне: ён лічыўся святым і скарыстоўваўся жрацамі, якія паслугаваліся ім для надання рытуалам найвялікшай таямнічасці. Так склалася разуменне гуку як асобнай з'явы, якая розніцца з жыццём і незалежная ад яго. З гуку паўстала музыка, утвараючы фантастычны свет, беззаганны і святы, які знаходзіцца па-за рэчаісным светам. Адсюль лёгка здагадацца, што падобнае абагаўленне ўрэшце рэшт стрымлівала развіццё музыкі, якую тымчасам апярэдзілі іншыя накірункі творчасці /.../.

Сучасная музыка становіцца ўсё больш складанай. Шукаюцца такія супастаўленні гукаў, якія ўспрымаюцца вухам дысанансава, варожа і даўка, і музыка штораз бліжэй набліжаецца да гука-шумавой.

Гэтая эвалюцыя музычнай творчасці праходзіць паралельна з колькасным прыростам машын, якія скрозь удзельнічаюць у працы чалавека...

І не толькі ў тлумнай атмасферы вялікіх гарадоў, але таксама і на вёсцы, да ўчарашняга дня яшчэ цалкам спакойнай, машына здолела нарабіць такую колькасць разнастайных шумоў, што чысты гук, па характару свайму сціплы і манатонны, ужо не выклікае ніякіх эмоцыяў.

У мэтах абуджэння і бударажання нашай уражлівасці музыка, шукаючы значна больш багатай паліфаніі і значна большай разнастайнасці тэмбру і каларыту інструментаў, скарысталася складанымі вынікамі дысанансных акордаў, падрыхтоўваючы такім чынам нараджэнне музычнага шуму /.../.

Калі ідзем праз горад з вухам больш уважлівым, чым вока, з задавальненнем слухаем шум вады, паветра або газу, што засмоктваюцца металічнымі трубамі, туркатанне рухавікоў, якія дрыжаць і дыхаюць, як звяры, гудзенне вентылятараў, шыпенне прасаў, скрыгат механічных пілаў, стукат трамвайных вагонаў на шынах, свіст пугі і шалясценне фіранак ці сцягоў /.../.

Такія вельмі разнародныя шумы маем намер узаемна дапасаваць і гарманічна ўпарадкаваць. Дапасаванне шумоў зусім не азначае выключэння з іх нерэгулярнасці тактаў, інтэнсіўнасці і вібрацыі, яно проста надае акрэслены градус і тон наймацнейшым і дамінантным праявам. Шум адрозніваецца ад гуку менавіта тым, што вібрацыі, якія яго выклікаюць, — як з погляду такта, так і моцы, — заблытаныя і неўнармаваныя. Кожны шум мае адзін тон, а часам нават акорд, які дамінуе ў агульным характары яго нерэгулярных вібрацыяў. Гэты дамінантны, характэрны тон дазваляе практычна адтвараць шум, выявіць у ім адзнакі не толькі аднаго адзінага тону, але таксама пэўнай яго разнастайнасці без шкоды для спецыфічнай асаблівасці, гэта значыць характэрнага для яго каларыту. Такім чынам, тыя шумы, якія можна атрымаць вярчэннем кола, могуць нам данесці ўвесь дыяпазон свайго гучання, у залежнасці ад футурыстычнай аркестроўкі, для якой шумы хутка будзем атрымліваць механічным шляхам:

1. *гукі, грымоты, лопанні, шлёпанні, груканні, рыкі;*
2. *свісты, сыканні, сапенні;*
3. *шэпты, мармытанні, брэньканні, рэхтанні, бульбатанні;*
4. *трэсканні, рыпенні, шаргатанні, скрэбанні, тупанні, трэнні;*
5. *шумы, якія ўзнікаюць пры стукаценні аб жалеза, дрэва, скуру, камень, тэракоту і да т.п.;*
6. *галасы звяроў і людзей: заклікі, енкі, стогны, крыкі, завыванні, рагатанні, іржанні, галашэнні.*

У гэтым пераліку пададзены асноўныя характэрныя шумы; усе іншыя ўтвараюцца толькі ад іх злучэння і камбінацыі. Рытмічныя рухі шумоў бясконцыя. І, падобна як у тоне, дамінуе тут адзін рытм, але вакол яго можна выразна чуць шматлікія варыяцыі.

Пераклад праз нямецкую мову Яўгена ШУНЕЙКІ.




*(Працяг. Пачатак у мінулым нумары «ЗНО»)*

Ігар БАБКОЎ

# ТРАДЫЦЫЯ Й МЕТА-МОВА



Фэномэн традыцыі знаходзіць сябе на двух узроўнях.

Першы можна назваць сэміятычным: гэта ўзровень знакавай наяўнасьці, корпус тэкстаў, актуальна прысутных у культурнай памяці нацыі. Гэтыя тэксты рознага кшталту, перадаюцца рознымі спосабамі й патрабуюць розных тыпаў чытаньня. Яны могуць быць напісаныя на розных мовах, могуць быць улучаныя ў дадатковыя кантэксты (сакральна-рытуальныя, групавыя, сацыякультурныя й г.д.). Усе гэтыя тэксты ў іх узаемасувязях і складаюць знакавы ляндшафт традыцыі, які ўвесь час зьмяняецца: штосьці забываецца, штосьці выходзіць на першы плян. У залежнасьці ад кода чытаньня адзін і той жа тэкст прачытваецца па-рознаму (клясычны прыклад — традыцыйная культура, пахаваная Клясыцызмам, рэабілітаваная ды ўзьнесеная на неверагодную вышыню Рамантызмам, дбайна сабраная ды выдадзеная навукоўцамі канца XIX — пачатку XX стагодзьдзя, прарослая ды пакладзеная ў падмурак беларускай нацыянальнай культуры, нібыта канчаткова зруйнаваная ў выніку індустрыялізацыі (русіфікацыі), гэтая культура раптам знаходзіць новыя магчымасьці ды пачынае рэгенэравацца ў элітарных гарадскіх асяродках канца XX стагодзьдзя).

У новаэўрапейскім грамадстве галоўным перадаўцай традыцыі (на яе сэміятычным узроўні) ёсьць сістэма адукацыі. Але ён не адзіны: некаторыя фрагмэнты традыцыі не паддаюцца перадачы праз гэты механізм (традыцыйная культура, рэлігійныя практыкі), бо ён ня можа ўзнаўляць сакральна-рытуальныя кантэксты, некаторыя выпрацоўваюць свае механізмы (дзіцячая культура: гульні, лічылкі й г.д.) і, нягледзячы на часам катастрафічныя зьмены ў грамадстве й адсутнасьць легітымнасьці, маюць неверагодную ўстойлівасьць.

Асноўная дэструктыўная функцыя сістэмы адукацыі ў дачыненьні да культурнай традыцыі — руйнаваньне кантэкстаў. Усялякі культурны тэкст упісаны ў розныя кантэксты і менавіта на скрыжаваньні гэтых кантэкстаў (якія заўсёды унікальныя) і значэньняў, што зададзеныя канвенцыяй, — паўстае зьява СЭНСУ. Усё гэта добра вядома з асабістага досьведу: значэньням нас вучаць, сэнсы мы шукаем і знаходзім самі. Сістэма адукацыі, як і кожная грамадская інстытуцыя, мае тэндэнцыю да самадастатковасьці, ды задае ў якасьці вядучага кантэксту самаё сябе. Тады мы гаворым: вучоба мае значэньне, але ня мае сэнсу...

Адукацыя як новаэўрапейскі фэномэн дастаткова добра навучылася перадаваць сэмантыку традыцыі (у кантэксьце нацыянальнай культуры), але дасюль ня вучыць адмысловым тыпам чытаньня гэтай сэмантыкі й зусім ня мае сродкаў дзеля ўзнаўленьня прагматыкі (полікантэкстуальнасьці) тэкстаў. Адсюль у постіндустрыйным грамадстве паўстае тэндэнцыя да поліцэнтрычнасьці сістэмы адукацыі, апрычонага «распыленьня» ейных інстытуцыяў па ўсёй прасторы соцыума й частковага пераносу функцыяў адукацыі з узроўню дзяржавы/нацыі на ўзровень грамадзянскае супольнасьці.

Па сутнасьці, адукацыя ёсьць «сістэма ў сістэме» і ў ёй цалкам захоўваецца «агульная заканамернасьць эвалюцыі сэміятычных сістэмаў, пры якой пэўны знак (альбо цэлае паведамленьне) могуць быць улучаныя ў тэкст іншае знакавае сістэмы ў якасьці яе складовае часткі й захоўвацца надалей... са зьменай функцыі» (В.В.Іваноў, Ю.М.Лотман...).

Але рэч у тым, што ў пэўных фрагмэнтах культуры гэткая «зьмена функцыі» можа скончыцца трагічна, асабліва калі яны губляюць свае ўласныя механізмы трансляцыі, як традыцыйная народная культура, і да таго ж трапляюць у «нетрадыцыйнае» асяродзьдзе.

І яшчэ аб адным істотным моманце культурнага ляндшафту традыцыі, які заўсёды прысутны на яе сэміятычным узроўні, хаця паўстае ды прарастае з узроўню герменэўтычнага, — аб рэфлексыўных самахарактарыстыках. Рэфлексыя над традыцыяй, фармаваньне яе «ўнутранага вобразу», СЬВЕТУ, стаецца ўсё больш істотным фактарам наданьня еднасьці — з аднаго боку, ды засьцераганьня ад распаду — зь іншага. Як мы знаходзім у тых жа аўтараў: «Істотным механізмам, што надае адзінства разнаітым узроўням ды падсістэмам культуры, ёсьць ейная мадэль «самой» сябе, паўставаны на пэўным этапе міт культуры аб сабе. Ён выяўляецца ў стварэньні аўтахарактарыстыкаў, ...якія актыўна рэгулююць будаўніцтва культуры як цэлага» (Іваноў — Лотман).

У гэтым сэнсе сэміятычны ўзровень культурнай традыцыі абавязкова мусіць несьці ў сабе сваю мета-мову: магчымасьць гаварыць пра ўсю традыцыю, пра традыцыю як цэлае.

Гэтая мета-мова зусім не абавязкова ёсьць навуковым дыскурсам, аб'ектыўным разглядам традыцыі. Істотныя словы, у якіх традыцыя прадумваецца ды выяўляецца, могуць паўставаць у адных фрагмэнтах (прыкладам у паэзіі), пераходзіць у іншыя (рабіцца філязофскімі поведамі альбо стэрэатыпамі масавай сьвядомасьці), паміраць альбо, наадварот, набываць новыя сэнсы й новую актуальнасьць (як постаць/вобраз Купалаўскага мужыка ў інтэрпрэтацыі Алеся Разанава). Але адзінае абавязковае патрабаваньне — яны мусяць быць знойдзенымі ў самой традыцыі, а не пазычанымі альбо похапкам перакладзенымі з «больш сьпелай». Бо ў дадзеным выпадку мусяць прысутнічаць ня толькі вынікі, але й сітуацыя мысьленьня/рэфлексыі.

Другі ўзровень самазнаходжаньня традыцыі — герменэўтычны. Мішэль Фуко такім чынам акрэсьліў узаемасувязь гэтых двух узроўняў: «Будзем называць герменэўтыкай сукупнасьць ведаў ды спосабаў/чынаў, што прымушаюць знакі загаварыць ды выявіць свае сэнсы; будзем называць сэміялёгіяй сукупнасьць ведаў ды спосабаў/чынаў, што дазваляюць разгледзець, дзе знаходзяцца знакі, вызначыць тое, што іх пакладае ў якасьці знакаў, спазнаць іхнія сувязі й законы іхняга счапленьня».

Герменэўтычны ўзровень пачынаецца тады, калі мы задаем пытаньне: хто гаворыць?

Па-за (ці па-над) наяўным знакавым ляндшафтам мы знаходзім суб'екта традыцыі.

Як мы ўжо пісалі вышэй, у герменэўтычным кантэксьце суб'ект традыцыі не зьяўляецца поведам дзеля апісаньня й рэканструкцыі псыхафізічнага ці культурнага тыпу чалавека пэўнай традыцыі. Далейшае разгортваньне гэтага азначэньня магчымае па наступнаму асацыятыўнаму шэрагу: суб'ект традыцыі —душа — этос — сьвет.

Калі на сэміятычным узроўні вядучым тыпам дзейнасьці ёсьць чытаньне/распазнаваньне знакаў, што ў значнай ступені можа быць фармалізавана й выказана ў пэўных правілах/алгарытмах, дык на ўзроўні герменэўтычным мы можам вызначыць адмыслова-чалавечыя сітуацыі ЗАПЫТАНЬНЯ ТРАДЫЦЫІ, ПРАНІКНЕНЬНЯ/РАЗУМЕНЬНЯ ТРАДЫЦЫІ ды ДАЛУЧЭНЬНЯ ДА ТРАДЫЦЫІ (альбо культурнай ідэнтыфікацыі).

Што тычыцца самога «дзейніка», чалавечае суб'ектыўнасьці альбо чалавечага тут-быцьця (Da-sein), дык яно зь непазьбежнасьцю знаходзіць сябе in-der-Welt-sein, у-сьвеце-быцьцём, і, адпаведна, калі гэты «сьвет» абнаружвае сваю знакавасьць/сэнсапрысутнасьць і сваю плыннасьць, — знаходзіць сябе ў традыцыі.

Такім чынам, усялякі чалавечы досьвед заўсёды-ўжо-прысутны ў традыцыі, сфармаваны й уфундаваны ў традыцыі, нават калі гэта не ўсьведамляецца на ўзроўні самарэфлексыі. У адрозьненьне ад сэмантыкі культуры, якая заўсёды дазваляе пэўную варыятыўнасьць, пэўны выбар, — традыцыі не выбіраюць, у іх прасьветлена пры-сутнічаюць.

Паспрабуем сфармуляваць своеасаблівую герменэўтыку пры-сутнасьці.

*а) Запытаньне традыцыі.*

Самая магчымасьць запытацца пра нешта зьвязанае з такой характарыстыкай чалавечага досьведу, як адчыненасьць, сэнсавая скіраванасьць на нешта — своеасаблівая сэнсавая інтэнцыйнасьць.

«Да сутнасьці пытаньня спрычыняецца тое, што пытаньне мае сэнс. Сэнс жа ёсьць скіраванасьцю (Richtungssinn). Сэнс пытаньня гэта, такім чынам, накірунак, у якім толькі й можа пайсьці адказ, калі гэты адказ хоча быць уцямным, сэнсатворным. Пытаньне ўводзіць запытанае ў пэўную перспектыву. Зьява пытаньня быццам бы выкрывае быцьцё апытанага. Таму лёгас, што адчыняе гэтае выкрытае быцьцё, заўсёды ёсьць адказам. Ён самы мае сэнс адно ў сэнсе пастаўленага пытаньня». (Г.-Х.Гадамэр).

Істотным момантам спрычыненьня да традыцыі ёсьць тое, што сэнсавыя матывацыі сьвету/традыцыі паўстаюць раней за веданьне знакавай наяўнасьці (у індывідуальным разьвіцьці гэта характэрны чаму? - перыяд дзяцінства) і самы сьвет пры-знаецца адно ў сьвятле гэтых матывацыяў.

Сэмантыка, пададзеная як ведамыя значэньні, як адказы, без папярэдняе сітуацыі запытаньня, — застаецца непразрыстай ды няўцямнай у сваёй наяўнасьці. У гэтым выпадку паўстае характэрная паэтычная скарга: «Пытаўся я ў ксяндзоў, пытаўся я ў філёзафаў /Усё мне яны расказалі/ А сэрца ўсё адно баліць/ Чаму сьвет? Чаму я? Чаму ўсё гэта?»

У пэўныя моманты разьвіцьця традыцыі здольнасьць ставіць пытаньні (ці, лепш сказаць, ставіць сябе ў сітуацыю пытальнасьці) — адзінае, што дазваляе ўзарваць закарэлы сэнсавы ляндшафт і,ператварыўшы «тэкст» у «тэкстуальнасьць», працягнуць культурную традыцыю далей.

*в) Пранікненьне/разуменьне традыцыі.*

Пранікаючае разуменьне традыцыі маецца быць тады, калі рух, памкненьне да прачытаньня тэксту/традыцыі паўстае ў даляглядзе асабістага спрычыненьня, асабістага пошуку сэнсаў. У гэтым выпадку паміж двума палюсамі — чалавечым існаваньнем у ягонай закінутай фактычнасьці, сэнсавай наяўнасьці тут і цяпер ды традыцыяй зь ейнай патэнцыйнай сэнсавай бясконцасьцю, утвараецца зона асаблівай сэнсавай напругі, зона «ціхай улады магчымасьцяў». Пранікаючы ў традыцыю, мы, па сутнасьці, размыкаем сваю фактычнасьць, эк-зістуем, выходзім за свае межы, самі становімся магчымасьцю саміх сябе.

Традыцыя стаецца апрычоным «топасам чалавечага», які мы абжываем і на які мы сябе растрачваем. Гэта менавіта тая прастора, па якой «можна ісьці як наперад, так і назад, і часам шлях назад вядзе нас хутчэй наперад» (М.Хайдэгер).

*с) Далучэньне да традыцыі (культурная саматоеснасьць).*

Далучэньне да традыцыі ёсьць выбар ІСТОТНАГА МЕЙСЦА ў ей. Зьяўляючыся ў гэтым мейсцы, мы зьмяняем увесь сэнсавы ляндшафт традыцыі. Гэта прадугледжвае адказнасьць за свой выбар. Гэтая адказнасьць ня ёсьць абавязак гаварыць ад імя ўсёй культурнай традыцыі. Мы гаворым «са свайго мейсца», ад імя саміх сябе, але разам з тым выцягваем з сабой увесь сэнсавы ляндшафт, які нам зьяўляецца кантэкстам.

Такім чынам, далучэньне да традыцыі ня ёсьць страта свайго твару, распушчаньне ў безасабовых, зададзеных раз і назаўсёды значэньнях. Наадварот, культурная саматоеснасьць па сутнасьці ёсьць выбар САМІХ СЯБЕ Й ЗДОЛЬНАСЬЦЬ НЕСЬЦІ АДКАЗНАСЬЦЬ ЗА СВОЙ ВЫБАР.

*Заканчэньне будзе.*






Янка ЮХНАВЕЦ

# ЗАЦЕМКІ*

Пра Беларускую паэзію? А ня толькі...

Нашу літаратуру прышмякалі, асабліва пасьля 2-й вайны, да паслухмянасьці тэорыі Бялінскага і Чарнышэўскага. Усё мастацтва для народу. Перачытаем «Что делать?» Чарнышэўскага, і не спаткаецца там прызвычайны ўдзел службе народу (агульна); там мяшчанская апраўданасьць... Там шмат, як неўроцік; не пазьбягае сваіх пачуцьцяў, а хоча адчуваць іх як надаўжэй.

* * *

Для мяне самы кароткі, пракудны верш мусіць быць навэлай — лірычнай ці драматычнай і г.д. (пра гэта можна ўздольна пісаць, — не заўсёды ўдаецца мне...). Спадзеўныя або неспадзеўныя зрыфмаваныя рытмам сказы не захапляюць. Часам уяўляю іх як славесны спорт (хоць і спорт таксама эстэтыка). Усякае мастацтва: імажынізм, футурызм, сымбалізм і г.д. заўсёды было для людзей, а ня дзічы-звера. Мы бачым ягоны ўплыў на жыцьцё...

* * *

Эстэтыка — расказ ці пра мінулае, ці пра сучаснае. Сучаснае — дэмаркацыйная лінія-доўж між мінулым і цяперщчынай. Сучаснае — злосны звагот дэфініцыі мінулай эстэтыкі. Часам нахабна адмаўляе яе, бо сучасная філязофія (заходняя) у помач клапоціцца пра канцэпты, пра экзыстэнцыялізм, пра інстынкт праблемаў шырэйшай культуры праз прагматыку навукі, праз прыёмы, схаваныя ў мастацтве інтэграламі літаратуры і малярства, і г.д. Настойлівыя прадвесьнікі ад усялякіх нацыяў імкнуцца ўсе гэтыя «хібы» зрабіць аксіёмамі.

* * *

Эстэтыка сучасная ў літаратуры — унятлівы расказ! Ахоплівае прычыны «чароўнасьці» адпаведнай напатканаму моманту ўражаньня і адчуваньня пластычнае праўды, якая задаволіць функцыю досьведу жыцьця. Усяк спраўляная асобамі па-свойму... Эстэтыка губляецца, дублюецца, дапаўняецца ў неспадзеўных «рэформах». Для некаторых функцыя праўды рэчаў ёсць абстрактная, экспрэсіўная. Функцыя не заўсёды апыноўваецца ў праўдзе, пакуль чалавек жыве і хоча ўяўленнем ды патрэбай рацыяналізаваць яе ў штодзённасьці.

Эстэтыка і логіка заўсёды ў разладзе — і гэта не пытанне, бо рацыяналізм расходзіцца тлумачыць іх пазітыўна, а не адхінеш людзей думаць абстракцыйнай сапраўднасцю...

* * *

Якая дурная абнімка! Самглелым (блізу абмерваньня) абношваць сваё, роднае зьлінялым аршынам чужынцаў?.. Мы, славяне, у будучыні станемся ворагамі... Мы ўсё маем адсаблівацца адзін ад другога (культурай, цывілізацыяй), але не мусім забывацца на агрэсію, пагарду да нас ад Англа-Саксаў. Мы заўсёды іх білі. Для іх гэтая слабасьць — прадугледжаны момант будучыні: адолець; а потым з мусульманамі справіцца лягчэй...

* * *

Мне патрапілася ўспомніць Гегеля, які казаў пра сусьветны Дух і Абсалют. Здаецца, можа памылюся, ён казаў: — Унівэрсальная духоўнасьць ёсць кірунак вытлумачэньня фактаў і дзеяньняў...

Але гэта ня важна. Я люблю Беларускі фальклёр.

Пасля вайны, 2-й, сустрэўся з творамі Сартра. І не зьдзівіўся, хто быў першым? Ён, ці нашыя казкі? Хоць бы адменны прыклад: звычайная казка пра «Ваўка і сабаку»... Гегеля забываюся. А Сартра трымаюся. Ён кантраст шмат якім іншым філязофам — ці сучасным, ці апошнім у XX стагодзьдзі. Ён дадатак Беларускага фальклёру.

* * *

А тымчасам люблю Ф.Ніцшэ. Ён шмат што скаардынаваў у філязофіі, у літаратурным ідэалізьме. Можа, на ўсіх паўплываў эфектна-апраўдана. Ён сьвядома зразумеў Дастаеўскага...

* * *

Вуснамі-словамі кідалі адгукі іхнія душы, каб гэтак што ёсць — было, і будзе. Гэта самае велікомае ў невядомых тварцоў песень, напеваў, казак і нават сьпеўных п'есаў. Яны не выпадкова сустракалі слухачоў, а тыя, пачуўшы, раптам прымаліся быць сьведкамі... дзяржаўнага, гістарычнага жыцьця краіны.

Аставалася надзённа-пачутае ад скарасьпеласьці слоў. Яны немінутыя ў часінах жыцьця збуджвалі думкі: — Беларусь! Мы — Беларусы!

Не сьмяхотна павучацца ад нашаніўства!

* * *

Добра было, каб Беларускія паэты на Айчыне (эміграцыйных не бяру ў разлік) зразумелі ідэалізм Ніцшэ, пэсымізм Сартра. У іх падходны эмпірызм нашай сучаснай Айчыне...

Ах, спынюся! Трактатаў не пішу. Я нікога не запрашаю з Беларускіх літаратараў пісаць рапартныя вершы з аналітычным ці з абстрактным, ці з экспрэсіянісцкім стымулам. Беларуская літаратура можа быць кантрастам-дыягназам для іншых літаратураў...

* * *

А вось тварцоў вялікай музыкі ў нас няма. Вольная, голая. Творац вальсы... Пасьля вайны чытаў у «Тайм», часопісу, Амерыканскі, із Шастаковічам; ён пахваліўся, што ён Беларус із Сібіру. У ягонай музыцы поўна Беларускіх момантаў. Ужо час прыняцца сваімі звычаямі інтэлігентнасьці, і боль міне ад супраціўных загадаў падганяцца. Дазволім сабе, а не камусьці.

* * *

Моўна-слоўную традыцыю не парушаю, хоць і ня ведаю добра Беларускі правапіс. Калі толькі ўдаецца, дазваляю сабе стварыць абстракт із слоў, якія будуць мець значэньне для людзей наскіх, і яны, напэўна, створаць сувязь, прылучэньні, тое, што называем мовай Беларускай.

Мова наша багатая (мы не маем Акадэмічнага слоўніка)! Дазволім арыентавацца на мову ад народа свайго! Яна ўжо сталася гісторыяй, палітыкай, законам літаратурнай эстэтычнасьці. Ня думаю, што гэта блага «гуляць» із роднымі словамі. Крыўдна, калі некаторыя паэты ці на Айчыне, ці тут на эміграцыі тыкаюць для рытму і рыфмаў-звагаў расейскі жаргон...

* * *

Сёньня атрымаў газэту «Бацькаўшчына». Там была надрукаваная рэцэнзія сп.Рамановіча (ён жа паэт Р.Крушына). Зусім не крыўдую, што яму не зразумелыя мае словы, і назваў мяне блізу дзікім шаманам; а пазьней нейкі Бярозка (ён доктар медыцыны і хатні паэт, які любіць пісаць, як маці, — ягоная ці кагосьці, — прадзе воўну ці лён абтрэплены і беларускі селянін надалей арэ сваю ніву) прыклікаў Беларусаў пляваць на маю паэзію (дакладна). А крыху пазьней прыслалі збор твораў «Ля чужых берагоў». Мяне не «ўпісалі», бо, мабыць, «замадэрны». Пагарды няма — чытаю. Там поўна твораў Н.Арсеньневай.

* * *

Я насьледак слаўнага М.Багдановіча! Калісьці, быў у 4 клясе (нацдэмаўшчына была ўсюды), купіў, ад бацькі грошы выпрасіў, зборнік «Вянок». Хаваў яго (пакуль пазьней ня быў дома) разам з гісторыяй М.Гарэцкага і Эвангельлю, ад прадзеда, у падстрэшшы хлява. Успамінаю паэтаў іншых, з часоў нацдэмаўшчыны. Божа ўпомач! Не памыліўся ісьці ў іхні сьлед, а, можа, не пайшоў! Шкадую, напаткаўся зь імі за мяжой... І навошта сваволіцца? На Айчыне я не займаўся літаратурай.

* * *

А надалей няма аніякіх друкаў з Айчыны (зьявіліся шмат пазьней), толькі расейскія наразбор. Зноў чытаю ў ангельскай мове замежную літаратуру: мастацкая, палітычная і г.д. Дапоўніліся веды пра Бадлера (тэматыка) і нават пра Шэкспіра (яго не асудзіш!). З нямецкае чамусьці цікаўлюся Шылерам ды некаторымі нячутымі творамі Гейнэ і прозай Цвейга ды

Флабэра... Нарэшце, у ЗША неспадзеўна натрапіў на Эзру Паўнда. Яго вінілі падчас вайны ўва ўсялякіх грахах, але час ад часу друкавалі (выбранае). Праз некалькі год «Запісы» пагадзіліся надрукаваць некалькі ягоных твораў у маім перакладзе.

* * *

Але прызнаюся. Аднойчы, дзесьці ў канчатку 1939 года (Заходняя Беларусь была прылучана да свае дзяржавы), напісаў самому сабе верш. Вось гэтую скамароху ўспомніў, а іншыя вершы (сучасныя) не жадаю памятаць... Таксама — задор! Калі памятаць ранейшыя творы (вершы), тады астануся ў будучыні нятворчым...

... я хачу быць у самім сабе... Я люблю, што люблю, калі толькі люблю! І гэта можа быць законам мастацкае літаратуры.

* * *

Куды дзявацца мне? Я тэмпераментны і не пагардны. Вось пішуць пра 2-ю вайну, а як быццам не было яе на Айчыне. «Аргументы», гэнэрацыя вартасьцяў паказваюць, што яна абстрактная на Айчыне. Народ наш толькі сьледкаваў, абы пасьлядоўным быў, ад чыесьці думкі. Усе мы адно спектулярныя. Шамякін (...) пра тое, што падчас 2-й вайны здарылася, а потым пра нічога пасьля вайны — трактары аруць зямлю. Загоскін пра напалявонаўскую вайну напісаў лепш. Мележ астаўся даняй часу штодзённага распаду, хоць напісаў гістарычную (недакладную) кніжку «Кірунак на Менск»**. А вось У.Караткевіч вялікі ў тэмах і вялікі ў Беларускай мове. А В.Быкаў? Мы можам хваставацца ў сусьветнай літаратуры нашага часу «Мёртвым не баліць», а творы апошнія ня трэба было расьцягваць (яны драматычна арганізаваныя). Мог сказаць у кароткая навэле, або некалькіх (у цыклях). Любімыя здарэньні, памятныя яму, мог перасказаць у адлеглысьці сымпатыі ад здаронага, якое цяпер ідэалізуецца (маю на ўвазе ягоныя апошнія творы). Там няма пантагэізму, падвоенага дуалізмам, на разлік што адбылося. Не разлічвае на здольнасць занятых сабе абаронцаў і Быкаў. Ня ведае, як абараніць іх. Апісаньні толькі...

А хто я? Эмігрант! Не апраўданьне! Уся эміграцыя галёкае: — Вызваленьня! Вызваленьня!.. А тымчасам, ад паволі цяжкое працы і прыстасаваньня зрабіліся машчанамі (нічога не перакладаюць з Беларускай літаратуры).

* * *

Не кажу пра літаратуру падчас нацдэмаўшчыны... Мусіць нехта зьявіцца, зрухнуць сучасную Беларускую літаратуру. Змясьці з п'едысталю залежнасьці ад рускае літаратуры... Некаторыя людзі творчасьці ад ненавісьтага страху (рэпрэсіі) карыстаюць свой талент для прыстасаваньня да жыцьця. Якая дурная, суровая дылетаванасць асудзіць іх! Усё ў іхняй меры. Так-гэтак прыбліжваюцца пісаць пра «спазмы» на Беларусі...

* * *

Можа, ад знаёмства із Заходняй літаратурай, а таксама філязофіяй, я стаўся для эміграцыйнага друку «дзікім»...

Для мяне Беларускія казкі, народны фальклёр (спосаб іх казаньня) сталіся НАД УСІМ, чымсьці ёсць «кічлівая» (не заўсёды) Англасакская ды Тэўтонская «прелесть» літаратурная (і гэта, бадай, не нахабства). Цікава, што расейская, не наша, апэўна, пабосьцілася із Захадам!..

Я вучуся ў самога сябе. Можа, яно благотнае, але спадзяюся, паможа камусьці...

... Я імкнуўся да непрадбачанага, хоць крыху пакінуцца несхаваным у Айчыннай літаратуры. «Дзікім» быць у думках і паэтычных формах (яны звычайныя) не адмаўляюся. Я сьведка «дзікае справедьнасьці» ў сучаснасьці. Я разумею — я Беларус! І гэта абсалют. Спадзеўлю быць часткай Беларускай мовы, ейнай сказачнасьці. Яна вялікая, чымсьці я.

* * *

Здарылася прачытаць у «Полымя» дзёньнік К.Чорнага.

Для нашай літаратуры было шмат «стравы» творчаму думаньню на Айчыне. Багацеюць неаджытыя «паніманіі» чалавечага існаваньня, яшчэ поўнасьцю «неізжытыя» ад суседзяў... Развіненьне духовага жыцьця нацыі (як страшна!) найлягчэй прыняць ад кагосьці (пад прымусам), аджа як перацерпіць, вынясе нацыянальная душа здольныя хітрасьці пануючых?

* * *

Я супаў із сваім часам. Калі не сказаць слова, тады будзе моўкнасьць. Поўнасьцю бяз сэнсу метафізічнай прапазыцыі лагічнага аналізу сучаснасьці. Ледзьве паўзьці па сваёй зямлі жужаліцай, ледзьве інстынктам пазнаваць зьмест майго быцьця... Карыстаю магчымасьць уступіць у сувязь творчага наканаваньня (лёсу). Мая творчасьць, можа, той выпадак, калі ўласная індывідуальнасьць дамінуе нада мной. Я навучыўся ад мастацтва разумець сябе, а іншых — іхняя справа. Маёмаснае задавальненьне, па-свойму, стварылася — недаступнае... І навошта пра гэта цьвярджу? Яно, мастацтва, для нашае цывілізацыі й культуры, і як ні бяры яго акачанелымі рукамі, яно адпаведнасьць нашаму гістарычнаму часу Айчыны (сьмехатворная шчырасьць ад сьвятога Яна!)...

... як дзіўна — абараняюся! Ды гэта ўрожаная справядлівасьць чалавека! Я люблю тое, што люблю, калі толькі люблю!.. Разумна паводзіцца ў маладосьці сталым чалавекам, а ў старасьці маладым!

* Назва рэдакцыі. Тэксты падаюцца ў скарочаным выглядзе

** «Мінскі напрамак».

*Вобразы з утулаў акіяну — мушлі*
*(над імі дзень сьвяціўся*
*і вечар*
*ужо пакінуў іх)*
*хрусьнелі*
*пад ступнямі нашымі,*
*у гэты быццам вокаміг*
*хвалі плёскаты*
*мацнелі*
*скрушна.*

*Ня позна ім ламаць уздоні!*
*Бы даланямі на узлонь далін*
*бераг уздымаць і пеніцца узроняй:*
*нятратай пырскаў з ухопінай жарсьцвін.*

*У перамозе ня помніць боль зямля!*
*— У парожніх мушлях мінулае жыцьцё —*
*дай слухаць ім яго ад хваляў, —*
*сказала, любая, ты мне.*

*І я*
*часіну нараканьня чаліў:*
*я-ж — натоўп, што любіць аж на дне*
*пышнець пакорнікам*
*і не забывацца прысна*
*існасьць*
*няўторную:*
*— Сьмерць заўжды ратунак і жыцьцё!*

*Клікаюць штодня званы маліцца.*
*Да прошчы ходзіць багамольны.*
*У сьценях уздарожных ліпаў*
*адпачыць спыняецца*
*і думае, думае шмат пра Бога,*
*або нават пра нікога.*
*Спатканага выпадкам падарожнага*
*як радзімага, прывітае ветла,*
*а расстанецца, уздыхне, варожыць:*
*да мясцін сьвятых шчэ цягнецца дарога.*
*І думае, думае ізноў пра Бога,*
*пра палахлівасьць жыцьця на сьвеце,*
*пра зломленыя ў калёсах спіцы;*
*і прад воблікам сьвятых укорнікаў,*
*успомніць: малітваслоў забыўся,*
*пакінуў дома*
*на паліцы.*

1952 г.

Публікацыя Леаніда ПРАНЧАКА.




Юрась БАРЫСЕВІЧ

# ПАМІЖ ГІСТОРЫЯЙ І ГЕАГРАФІЯЙ

*(Самасвядомасць народа й творчасць)*

Ці мусім мы шукаць свой шлях да сусветнай гісторыі, калі іншыя народы ўжо шукаюць выйсця з яе? На думку культуролагаў, Захад стаміўся жыць дзеля прагрэсу, прынамсі, прагрэсу ў нацыянальнай культуры. Гісторыя амаль «сканала» на звышцывілізаваным Захадзе — ці не таму яна мае цяпер уваскроснуць у абуджаных народах апошняй імперыі? На жаль, мы таксама стаміліся — ад палітыкі, але для культуры — і сваёй, і сусветнай — мы толькі яшчэ нараджаемся. Магчыма, не праз палітыку, а праз культуру можа цяпер паўстаць новая нацыя?

Няшмат хто з тутэйшага люду ведае зараз, ці то беларусы яны, ці яшчэ не. Дзе ж тая рыса, за якой пачынаецца нешта аўтэнтычнае й святое для нас, нешта такое, што будзем бараніць ад усялякай спакусы, усялякага гвалту, нават ад насмешлівага позірку з Усходу ці з Захаду? Дзяржаўная мяжа пакуль не сталася гэткай рысаю. Дзе, у чым хаваецца сапраўдная радзіма для беларуса, сапраўдная Беларусь?

Пакуль што чужое беларусу даражэй і цікавей за ўласнае. «Іншы не горш за мяне», — ці не так мяркуе тутэйшы? "Я згодны жыць у тым выпадку, калі побач жывуць іншыя людзі і жывуць не горш за мяне». «Лепей жыць госцем на гэтай зямлі, чымсьці гаспадаром».

Гумус (глеба), на якім мае ўзысці «беларуская ідэя», — гістарычны альтруізм і этнічны канфармізм. Беларускасць мае быць працягам і пераадоленнем тутэйшасці.

Радзіма чалавека — там і ў тым, за што ён напагатове загінуць. Заўжды чалавек ахвяруе наперад уласным жыццём, а ўжо потым — сваёй сапраўднай радзімай.

Магчыма, лепш за ўсё гуртуе насельніцтва ў нацыю, выпрабоўвае каштоўнасці, піша законы — вайна.

Нацыянальная самасвядомасць непазбежна, да пэўнай ступені, мае быць агрэсіўнай. Беларусы дасюль не сталіся нацыяй менавіта таму, што былі занадта памяркоўнымі й спагадлівымі.

Каб стацца нацыяй, мусім усвядоміць суседзяў не ворагамі, але іншымі, нясвойскімі людзьмі. Дзяржаўная мяжа мусіць быць не люстэркам, а вакном у іншыя кшталты быцця, дзе жывуць нібыта гэткія ж людзі, але ўсё ж не «мы», а «яны».

На жаль, толькі небяспечнае асяроддзе дапамагае нам усвядоміць адзін аднаго братамі, дзецьмі агульнай маткі — зямлі ці культуры. Трэба адчуваць небяспеку, каб ведаць, да якой культуры ты прыналежыш.

Магчыма, вайна — добры сродак стварыць ці адрадзіць нацыю, але ж тое, што на карысць нацыі, не заўсёды добра для чалавека. Каб адрадзіць культуру й нацыю, мусім шукаць іншыя шляхі. Хаця, праўду кажучы, я не ведаю, ці можна заснаваць, стварыць, адрадзіць што-небудзь без крыві й ахвяры. Кожнай культуры патрэбныя шаноўныя продкі, што загінулі са зброяй у руках ці палымяным словам на вуснах.

Для нацыянальнай самасвядомасці мір бывае больш небяспечны, чымсьці вайна. Бо вайна ёсць экзістэнцыйнай сітуацыяй, якая прымушае кожнага чалавека ўсвядоміць, разам з кім і супраць каго ён жыве.

Нацыю руйнуюць не ворагі, а хаўруснікі, старэйшыя браты. Бо не да ворагаў, а да саюзнікаў год ад году робімся мы ўсё болей



падобнымі.

Але, магчыма, так яно й мае быць: супольнае прыдатней для жыцця й смерці, чым толькі сваё і больш нічыё.

Культура гіне, калі ўжо не лучыць чалавека з іншымі людзьмі, а таксама — з цывілізацыяй і Богам (г.зн. з зямлёю й небам). Навошта яна, калі маюцца іншыя, больш зручныя сродкі гэткіх сувязяў? Для тутэйшых зараз расейская мова — карацейшы, чым родная, шлях і да грошай, і да Бога. Але культура таксама гіне й тады, калі не звязвае чалавека з іншымі народамі, з іншымі культурамі. Таму што сам між сабою ніхто не захавае культуру — ні чалавек, а ні народ.

Культурныя запазычванні — асабліва прымусовыя — у мове, светапоглядзе, ладзе жыцця й г.д. ператвараюць народ у правінцыю іншых народаў. Правінцыял — усялякі, хто жыве пазней за каго-небудзь, хто жыве за шырокімі спінамі старэйшых братоў. Але ж і ў нас, верагодна, недзе ёсць малодшыя браты. Так яно й мае быць: усе мы — «заморскія тэрыторыі» адзін аднаго. Ва ўсялякага народа ёсць нешта лепшае, чым маем мы, але й у нас кожнаму народу ёсць, было ці будзе што запазычыць.

Пакуль што мы больш падобныя да іншых народаў, чым да саміх сябе. Мы болей жывём на ўскрайку Расіі, чым на Беларусі.

Набыць імя й кім-небудзь стацца можна толькі праз уласную (аўтэнтычную) творчасць. На маю думку, менавіта творчасць дазваляе людзям пазбыцца комплексу «адвечна малодшых» (а таксама стацца не кім-небудзь, а самімі сабой). Творчасць ёсць самастойным набыццём самасвядомасці, пошукам нейкіх «я» і «не-я», «мы» і «не-мы». Творчасць дапамагае чалавеку ці народу знайсці сябе ў адным і пазбыцца сябе ў іншым. Бо разам з вынайдзеным адказам заўсёды паўстае новая праблема, а самасвядомасць ізноў губляе дасканаласць. Дарэчы, нацыянальна свядомы чалавек не толькі шукае адказы на ўласныя праблемы ў народным вопыце, але гэтаксама шукае й пытанні, на якія здолеў бы адказаць толькі ўвесь народ, шукае праблему для ўсяго народа.

Творчасць ёсць пошукам сваёй сапраўднай радзімы. Мы не маем ні будучага, ні мінулага, пакуль нашая тутэйшасць не ператворыцца ў беларускасць. Бо радзіма заўсёды — не толькі нашая маці (мінуўшчына), але таксама й нашая дачка (будучыня). Каб займець радзіму, трэба дапамагчы ёй нарадзіцца. Хто ведае, што было напачатку: народ ці радзіма?

Народ, які ўжо не стварае, ці, лепш сказаць, ад імя й дзеля якога ніхто ўжо не стварае, — непазбежна знікае, асімілюецца, бо нельга спыніць развіццё астатняга чалавецтва, нельга спыніць гісторыю. Народ, які не аднаўляе свой светапогляд, мову, свае традыцыі, застаецца недзе ў мінулым часе, г.зн. — ператвараецца ў пажыўную глебу для іншых народаў. Толькі праз стваральную дзейнасць культура застаецца сучаснай, невыкапнёвай. Ці здолеем набыць жывы твар, а не пасмяротную маску?

Творчы выбух Рэнесансу абумовіў нараджэнне (не грэкамі ж сталіся) еўрапейскіх народаў, нараджэнне нацыянальнай самасвядомасці. Што, калі нацыянальнае нельга адрадзіць, а можна толькі нарадзіць? Ды й не ад-родам, а на-родам трэба нам усвядоміць сябе.

Каб уваскросла нацыя, трэба стварыць новыя — перадусім гарадскія — варункі нацыянальнага быцця. Беларусь амаль не мае ўласных кшталтаў індустрыяльнай і постіндустрыяльнай культуры. Не тое дрэнна, што мы іх запазычваем, а тое, што не ствараем сваіх. Магчыма, трэба неяк абмяжоўваць запазычванні ў іншых народаў, але ж таксама нельга рабіцца занадта падобнымі да ўласных продкаў, «сапраўдных беларусаў»; ці здолелі б яны жыць у сучасным свеце? Беларускі шлях, які мы шукаем, павінен прывесці нас да сучаснага свету, а не да сівой даўніны (старажытнасці). Мінулае, нават самае добрае, мусіць быць для нас не мэтай, а толькі арыенцірам.

У пэўных колах пашыраная думка, што нам трэба не шукаць нейкія новыя каштоўнасці, а проста звярнуцца да тых, што «цепляцца яшчэ ў глыбіні народа». Мне здаецца, у такім разе трэба было б спраектаваць напаўзабытыя каштоўнасці на сучасную ці, лепей, будучую рэчаіснасць. Каб адрадзіць нацыю, трэба рушыць не да таго, што некалі было, а да таго, чым яно магло б стацца сёння ці неўзабаве. Мінулае — не толькі нашае — ужо асуджана гісторыяй: калі б усё там было добра, мы там і засталіся б. Можа, варта было б спраектаваць XVI стагоддзе на XXI?

Каб ізноў стацца нацыяй, трэба стварыць радзіму не продкам, а нашым дзецям.

Зараз беларуская культура не мае акрэсленай перспектывы на будучыню. Доўгі час яна была пазбаўлена й свайго сапраўднага мінулага. Няхай кепска, але мы ўжо ведаем свае карані, а вось перспектыву развіцця нацыі не бачым. Звычайны ж чалавек жыве, па-першае, «таму што» і, па-другое, «дзеля таго каб». Народу трэба зразумець, дзеля чаго ён мусіць развіваць продчыну культуру, што яна мае даць ягоным дзецям. Справе адраджэння патрэбныя працы не толькі гісторыкаў, але таксама й футуролагаў (дзе ж яны?). Ці можам прапанаваць тутэйшым людзям у плане культуры нешта такое, чаго не могуць зараз даць ім, напрыклад, расейцы ці амерыканцы? Толькі тады нашая культура, дарэчы, зацікавіць бліжніх і дальніх суседзяў.

Чалавек усвядомлівае сваю прыналежнасць да пэўнай культурнай традыцыі, калі лучыць сабою мінулае й будучыню, нашчадкаў і продкаў, калі стварае нешта новае ад імя тых, хто быў, і для тых, хто мае стацца беларусамі.

Тая культура будзе роднай чалавеку, якая будзе яго ратаваць часцей за астатнія. Культура адродзіцца ў той жа ступені, у якой мы з вамі здолеем нарадзіцца наноў праз яе. Ці адродзім мы мову, калі яна не адродзіць нас? Беларусь будзе жыць, пакуль будзе нараджаць і ратаваць хоць аднаго чалавека.

Каб займець будучыню, культура павінна быць не толькі іншай, але й вышэйшай за іншыя. Усталёўваецца і пануе тая культура, да якой трэба дарасці. Чалавек, які далучыцца да яе, мусіць адчуць сябе разумнейшым, мацнейшым — г.зн. больш дарослым. Увогуле культура ёсць даросласцю.

Адзіны сродак выратаваць нацыянальную свядомасць без вайны — хоць у нечым пераўзысці суседзяў у культуры. Мусім пераадолець уласны правінцыялізм дзеля таго, каб зямля пачыналася не толькі з іншых, але таксама й з нас. Мы застаемся духоўнай правінцыяй суседніх народаў, пакуль знаходзім сябе ў іншай культуры часцей, чым ва ўласнай. Безумоўна, жыць толькі блізу сябе немагчыма, але ж хай, прынамсі, палову думак, школ, твораў мастацтва пакінем беларускімі й на Беларусі.

Нельга й замыкацца ў сабе. Вядома, што эканоміка набывае здаровы выгляд, калі працуе на экспарт: гэта прымушае вытвараць тавары міжнароднага ўзроўню якасці. Культура толькі тады ў бяспецы, калі мае спажыўцоў і нават творцаў па-за сваёй этнічнай мяжой. Квітнее тая культура, якая з нацыянальнай здолее стацца інтэрнацыянальнай, — як амерыканская ў сучасным свеце, расійская ў СССР, беларуская ў Вялікім Княстве.

Жыццяздольны нацыянальны дух мусіць не абмяжоўвацца толькі адным этнасам. Наш шлях (у будучыню) будзе нечага варты, калі ён будзе не толькі беларускім. Вышэйшага пункту свайго развіцця мы дасягнем толькі тады, калі дапаможам няхай аднаму яшчэ народу выйсці на свой шлях. Ды й ці можна выратаваць сябе, не ратуючы іншых?

Дарэчы, нашая будучыня — таксама замежжа для нас — не ў прасторы, а ў часе. Рабіць штонебудзь не для саміх сябе, рабіць на вываз — значыцца, працаваць не толькі для іншаземцаў, але, таксама, для іншачаснікаў — нашых нашчадкаў.

Каб выратаваць культуру, мусім шукаць выйсця беларускага шляху не ў мінулым, а ў будучыні. Больш карысна й важна плод (плён) прынесці, чымсьці карані свае адшукаць. У эсэ пра Г.Уэлса расейскі пісьменнік Я.Замяцін выказаў слушную думку, што арыстакрат па крыві жадае, каб у яго было шмат знакамітых папярэднікаў, тым часам як арыстакрат па духу жадае быць першым...

Мы павінны шукаць сваё месца не ў прасторы, а ў часе.




## Тадэвуш УРУБЛЕЎСКІ

# НАРОД*

*Тадэвуш Урублеўскі (1858 — 1925) — адвакат, публіцыст, культурны дзеяч. Вызначаўся глыбокадэмакратычнымі перакананнямі. З маленства рос у атмасферы грамадскага служэння і ахвярнасці. У віленскім доме яго бацькі Астапа Урублеўскага (дарэчы, у маладыя гады члена Кірыла-Мефодзеўскага брацтва), бывалі З.Серакоўскі, К.Каліноўскі. Пасля заканчэння Пецярбургскага універсітэта і некалькіх гадоў юрыдычнай практыкі пад кіраўніцтвам У.Спасовіча Тадэвуш Урублеўскі ў 1891 годзе вярнуўся ў Вільню, калегаваў з Фр.Багушэвічам, іншымі дэмакратамі-краёўцамі. Асаблівую вядомасць Тадэвуш Урублеўскі набыў як абаронца палітычных зняволеных падчас судовых працэсаў 1905 — 1907 гг. Сярод бароненых ім рэвалюцыянераў быў лейтэнант Шміт, матросы пастаўшых караблёў «Потёмкин» і «Очаков». У 1910 годзе падабаронным Т.Урублеўскага быў рэдактар «Нашай нівы» А.Уласаў. На судовым працэсе 45-ці беларусаў у 1923 годзе ў Беластоку Т.Урублеўскі ці не ў апошні раз публічна засведчыў сваё высокае мастацкае майстэрства юрыста і крыштальную этыку інтэлігента-дэмакрата. З яго абарончай прамовы відаць, што ідэалам гэтага высока адоранага чалавека і грамадзяніна было братэрскае сужыццё народаў, заснаванае на роўнасці і праве. Апошнія гады жыцця Т.Урублеўскі парадкаваў сваю вялізную бібліятэку і дзейсна цікавіўся палітычным і духоўным жыццём беларусаў, лёсам гэтага не чужога яму народа. Пад псеўдамімамі Корвін, Т.Вароніч, Карановіч, Ёдварніс ды іншымі ён выступаў у польскім і заходнебеларускім віленскім друку з праблемнымі публікацыямі. «Народ і дзяржава» — адно з такіх філасофска-публіцыстычных яго выступленняў. Яно было змешчана ў зборніку «Заходняя Беларусь» за 1924 год.*

*Арсень ЛІС.*

У звычайнай гутарцы словам «народ» мы называем самыя рознародныя згуртаваньні людзей: народам называем старавечных грэкаў і сучасных палякаў, цыганаў і немцаў, жыдоў з біблейных часоў і тых жыдоў, што цяперака жывуць распыленыя па ўсенькім сьвеце, — хаця ў кожным з пералічаных прыкладаў зьмест ужатага назову «народ» — зусім іншы. Вынікае гэта з таго, што народ, наагул, не прадстаўляе нязьменнага прыроднага зьявішча, а ёсьць гістарычна-сацыяльнае згуртаваньне, зьменнае, як і ўсё грамадзкае жыцьцё.

Разгледзім тыя азначэньні паняцьця народу, якія даваліся яму ў розныя часы ў залежнасьці ад таго, што прымалася за істотную аб'ектыўную адзнаку народу.

Гэтак некалі думалі, што істотнай аб'ектыўнай адзнакай народу зьяўляецца супольнасьць племяннага паходжаньня. Але гэтаму пярэчаць факты: бо, прыкладам, народ італьянскі — гэта вынік этнічнага зьліцьця этрускаў, галаў, лацінян, рымлян, грэкаў, германцаў і сарацэнаў, а французы — гэта мешаніна тых-жа рымлян і галаў, цэльтаў, германцаў і ібэрыйцаў.

Найчасьцей за істотную адзнаку народу прымаюць мову яго, а таксама супольнасьць займанае тэрыторыі. Гэтак ужо ў 1775 годзе de Felice у другім выданьні Вялікае Французскае Энцыкляпэдыі пад словам «nation» разумее згуртаваньне людзей, што жывуць на супольнай тэрыторыі і гавораць супольнай мовай; а цераз сто гадоў — у 1874 годзе — статыстычны кангрэс у Пецярбурзе пастанавіў азначаць нацыянальнасьць паводле мовы штодзённага ўжытку (langue parlée —Umbgangssprache). Тымчасам і тут факты пярэчаць тэорыі: існуюць народы, якія, апрача супольнасьці мовы, нічога больш ня маюць між сабой супольнага, як, прыкладам, французы і бэльгійцы, англійцы і амэрыканцы, данцы і нарвэжцы, або нават зьяўляюцца самымі непрымірымымі ворагамі адзін аднаму, як англійцы і ірляндцы: абодва народы гавораць па-англійску, але ірляндцы і ў тэй-жа англійскай мове — пяюць у «Песьні аб зялёным Эрыне», што яны і англійцы — народы рознае расы, і ніякім цудам — да сканчэньня сьвету — ірляндзкае сэрца ня злучыцца з англійскім... Урэшце, існуюць народы, што ўжываюць некалькіх моваў, як бэльгійцы і швайцарцы, але прадстаўляюць адзін народ.

Тым больш ня можа быць адзнакай народу яго рэлігія. Хаця быў час, калі рэлігія была асновай культуры, пранікаючы ў масы і запускаючы карані ў цёмную і паняволеную душу народную, — хаця і цяпер асаблівасьці рэлігійнае культуры адбіваюцца на характары нацыянальнае культуры, — аднак мы ведаем лішне многа народаў, зусім розных паміма супольнасьці рэлігіі, і лішне многа вызнаўцаў розных рэлігій сярод сыноў аднаго народу, каб можна было прызнаць рэлігію істотнай адзнакай паняцьця народу.

Як у старадаўнія часы, так і ў часе сярэднявечча вытварыўся быў пагляд, які разумеў народ толькі ў сувязі з дзяржавай, ці ў дзяржаве. Тварцы Вялікае Французскае Энцыкляпэдыі ў 1-м выданьні яе азначаюць народ, як згуртаваньне людзей, што жывуць на тэрыторыі з азначанымі межамі і падлягаюць аднэй урадавай уладзе, — і нават вялікі Монтэск'е не прадстаўляў сабе народу без дзяржавы. Але ўжо XIX сталецьце ясна паказала, што найбольш ярка выяўляюцца нацыянальныя адзнакі якраз у народаў, якія ўтрацілі сваю дзяржаўнасьць, а побач з гэтым якраз у XIX-м сталецьці будзіцца да нацыянальнага жыцьця цэлы рад плямёньняў, якія ніколі ня мелі свае ўласнае дзяржавы.

Не зьяўляецца, урэшце, неабходнай адзнакай народу вымаганае энцыклёпэдыстамі жыцьцё на аднэй тэрыторыі, бо адзінкі, што жывуць па-за межамі нацыянальнае тэрыторыі, усё-ж не перастаюць належаць да свайго народу, — а да таго-ж мы ведаем народы, што жывуць распыленыя па ўсім сьвеце, паміж чужых народаў.

З усяго гэтага вынікае, што дзеля азначэньня народу трэба шукаць адзнакаў не аб'ектыўных, а суб'ектыўных, і сучасныя вучоныя на апошніх іменна і грунтуюцць сваё азначэньне паняцьця народу.

Паводле Рэнана ("Qu'est ce qu'une nation"): «Une nation est une ame, un principe spirituel. L'homme n'est pas esclave ni de sa race, ni de sa langue, ni de sa rêligion, ni des eaux de ses fleuves, ni des chaines de ses montagnes. Une grande agregation d'hommes saine d'ésprit et chaude dé coeur crée une conscience morale, qui s'appelle nation». Народ — гэта вялікая салідарнасьць, вынік сьвятога пачуцьця адносна да мінулых і будучых ахвяр. Супольная слава ў мінуўшчыне, супольная воля ў сучаснасьці, у сваёй душы пранікшыя ў яе разам з усей культурай народу тыя асноўныя зачаткі паняцьцяў, каторыя вытварыла царква. Бывае, што царква аказвае на нацыянальную сьвядомасьць рашучы ўплыў: гэтак сэрбы і харваты, нягледзячы на супольнасьць мовы, лічаць сябе двума рознымі народамі на тэй аснове, што харваты належаць да каталіцкае царквы, а сэрбы — да праваслаўнае.

Паняцьце народу мае *дынамічны характар.* Згуртаваньне людзей можа быць народам у большай ці ў меншай меры. Чым вышэйшыя і больш рознародныя зачаткі мае ў сабе тая культура, што гуртуе людзей у народзе, тым мацней бывае пачуцьцё культурнае еднасьці і нацыянальнае свядомасьці, якая вядзе да вялікіх дзеяньняў, — вось істотныя варункі нацыянальнага існаваньня.

Паводле Нэймана (Neumanne — «Volk u. Nation»), народ —гэта згуртаваньне людзей, якое, дзякуючы свайму асабліваму развіцьцю культуры, вытварыла ў сабе асаблівыя ўласьцівасьці, што перадаюцца з пакаленьня ў пакаленьне, як спадчына. Падобным-жа суб'ектыўным спосабам азначаюць паняцьце народу Кірхгоф (Kirchhof — «Nation und Nationalitat»), Гэрц (F.Hertz —"Socialdemokratie u. die nationale Frage"), Адольф Браўн, Шпрынгер і другія. Але найбольш точнае азначэньне знаходзім у Ельлінка ("Allgemeine Staatslehre"); ён кажа, што народ — гэта аб'яднаньне людзей, сьвядомае свaей унутранай лучнасьці дзякуючы супольнасьці многалічных зачаткаў культуры і супольнасьці гістарычнае прошласьці, ды праз гэта сьвядомае свaей вонкавай абасобленасьці.

Гэтак бачым, што адзінай істотнай адзнакай народу зьяўляецца яго *нацыянальная свядомасьць*. Народ — гэта не этналягічная раса, не згуртаваньне на аснове ўмовы (societas), а духовае аб'яднанне (communio), якое складаюць пачуцьці, думкі і іх праявы.

Усе раней пералічаныя аб'ектыўныя адзнакі народу, хаця самі па сабе не прадстаўляюць неабходнага варунку існаваньня яго, аднак дзеюць у кірунку вытвараньня нацыянальнае сьвядомасьці. Гэтак, калі мы бачым, што супольнасьць племяннага паходжаньня як-быццам аказвае на нейкае згуртаваньне людзей нацыянальна яднаючы ўплыў, дык папраўдзі іх яднае *ня самы факт* прыроджонае супольнасьці, а *сьвядомасьць* гэнае супольнасьці і зьвязаныя з ёй пачуцьці і паняцьці, што і зьяўляецца нацыянальна творчым элемэнтам. Магутны ўплыў пры вытварэньні нацыянальнае сьвядомасьці аказвае рэлігія, дый яно інакш і быць ня можа: бо-ж нацыянальная сьвядомасьць творыцца з норм і паняцьцяў, а рэлігія, як кажа Кутшэба, сягае да глыбіні чалавечых паняцьцяў і пачуцьцяў, вызначае іх вартасьць, умацоўвае іх існаваньне сваімі загадамі, адны з каторых, перанятыя правам, стаюцца праўнымі абавязкамі, другія-ж служаць за меру, якой мераецца маральнасьць людзей. І гэта адносіцца ня толькі да веруючых людзей: нават адзінкі, што бунтуюцца проці ўлады царквы, якой іх народ падлягаў цэлыя сталецьці, захоўваюць якое і выяўляецца вонках у волі народу. «Хочам быць адзіным братнім народам!» — гэтак напісалі швайцарцы на сваіх гранічных слупох. А жыды, расьцярушаныя па ўсенькім сьвеце, ужываючы некалькі розных гутарак, належачы да розных культур, злучаныя лятуценьнем аб далёкім Сіоне, бачаць адзіную нацыянальную сувязь у Законе Божым, калі ў дзень Йом-Кіпур моляцца славамі: «Ты, Сьвятая Тора, — адзіная арка прымірэньня нашага народу».

Як вышэй сказана, да канца XVIII сталецьця паняцьце народу-нацыі ў сучасным разуменьні гэтага слова не існавала. Толькі тая малая жменя людзей, што карысталіся палітычнымі прывілеямі, магла прымаць учасьце ў культурным жыцьці і карыстацца здабыткамі яго. Гэта група людзей і прадстаўляла тады народ. Зваяваная дужэйшым суседам, ці папаўшы пад уплыў ягонае культуры, гэная група вельмі хутка губляла сваю нацыянальнасьць, ідучы па лініі найменшага праціўленьня, падрыхтаванай касмапалітызмам тагачаснае навукі, даваўшай доступ да палітычнае кар'еры і матэрыяльных карысьцяў. Але настаў мамэнт, калі разам збудзіліся да грамадзкага жыцьця *народныя масы*, якія датуль жылі ў няволі, у цемнаце і ў паняверцы, — і вось гэтыя масы пачынаюць барацьбу за свае правы і за людзкі быт для сябе. А асноўнай часткай гэтага «людзкага быту» зьяўляецца *культура*. І вось селянін і работнік прагавіта працягваюць свае рукі да недаступнае для іх датуль сьвятыні культуры, але збудзіўшаеся жаданьне сьвятла і знаньня можа быць здаволена толькі адным спосабам: у тэй мове, якой народныя масы гаварылі ад першых дзён свайго жыцьця, якая адна толькі можа даць зусім точнае, зусім правільнае разуменьне аб рэчах і паняцьцях. Вучыцца-ж чужое мовы народныя масы ня маюць ні часу, ні магчымасьці, ні ахвоты, ды гэтак даюць найбольш моцны адпор дэнацыяналізацыі. Патрэба родзіць творчасьць у роднай мове, і зьяўляюцца людзі, якія, адчуваючы народныя патрэбы, усе свае сілы і сваё жыцьцё аддаюць на разьвіцьцё і шырэньне роднае культуры. Калі-ж дзеля палітычных ці сацыяльных прычын пачынаецца ўціск і пераследаваньне шырэньня асьветы, тады *культура масаў* гартуецца і ўзмацоўваецца, разьвіваючыся і разрастаючыся ў *нацыянальную культуру і нацыянальную сьвядомасьць.* Так было ўсюдых, так было і ў беларусаў. Значыць, не нацыянальная ідэя пачаткова падымала народ, а сам народ, у меру свайго сацыяльнага і духовага росту, выкаваў новае аружжа дзеля барацьбы за паўнату жыцьця — у пастаці нацыянальнае культуры, якая прадстаўляе для яго найлепшы спосаб дзеля далейшага духовага разьвіцьця.

Аднак на разьвіцьцё нацыянальнае сьвядомасьці дзеюць яшчэ і другія фактары. Зьмест супольнага жыцьця людзей абыймае ня толькі супрацоўніцтва іх, але і канкурэнцыю. Расцьвет нацыянальнае сьвядомасьці ў XIX сталецьці зыходзіцца з буйным расцьветам капіталізму. І вось аднэй з формаў канцэнтрацыйных імкненьняў капіталізму зьяўляецца нацыянальная ідэя, ідэя нацыянальнага аб'яднаньня. Найбольш істотную патрэбу капіталістычнага ладу прадстаўляе ўмацаваньне рынкаў збыту і здабыцьцё новых. Каб здаволіць гэтую патрэбу, народы дзяржаўныя і недзяржаўныя ў роўнай меры клапацяцца і змагаюцца адны з аднымі. Народы недзяржаўныя стараюцца бараніць свой «stan posiadania», стараюцца заваяваць для сябе манаполію на ўнутраным рынку, а гэтаму — валаданьню ўнутраным рынкам — вельмі дапамагае нацыянальная культура; дык вось, прымушаныя да гэтага канкурэнцыяй, недзяржаўныя народы ня толькі пашыраюць і разьвіваюць сваю нацыянальную культуру, ня толькі стараюцца ўмацаваць яе асаблівасьці, але такжа будзяць у масах непрыязьнь і варожыя адносіны да ўсякае чужое культуры; з прычыны слабасьці недзяржаўных народаў адзіным іх аружжам зьяўляецца тварэньне свайго багацьця, узмацаваньне свайго валаданьня ім і байкот... Для дзяржаўных народаў унутранага рынку не даволі: выходзячы па-за межы нацыянальнае тэрыторыі, капіталізм вымагае ўсё новых рынкаў, — насамперш рынкаў на землях недзяржаўных народаў; а дзеля гэтага апошняга за найлепшае аружжа лічаць прыгнятаньне і дэнацыяналізацыю падбітых недзяржаўных народаў, ужываючы гэтага аружжа з імя «нацыянальнае еднасьці»... Далей, гаспадарчае жыцьцё прымушае дзяржаўныя народы да здабываньня замежных рынкаў, і ў гэтым імкненьні дапамагае патрыятычнае пачуцьцё, якое пертвараецца ў нацыяналізм, каторы дзеець у імя магутнасьці нацыянальнае дзяржавы і вышэйшасьці нацыянальнае культуры, карыстаючыся фразэалёгіяй нацыянальнае місіі і пашыраючы ненавісьць да ўсяго чужога. Узіраючыся на нацыяналістаў магутных народаў, стараюцца йсьці па іх сьлядох і нацыяналісты недзяржаўных народаў, але, ня маючы сілы, палахлівыя, замучаныя, яны ня здольны да чыннае барацьбы, могуць толькі лятуцець аб незалежнасьці, аб уладзе, аб рынках, аб пажыраньні яшчэ слабейшых нацыянальных меншасьцяў і пустатой псэўда-патрыятычнае фразэалёгіі прыкрываюць сваю сацыяльную слабасьць і палітычнае бязсільле.

У часе «вясны народаў» — пры пачатках іх нацыянальнага аб'яднаньня — прагрымеў натхнёны голас Яна Готліба Фіхтэ ("Reden an die deutsche Nation"): «У істоце нацыянальнага пачуцьця ляжыць ня ўласная карысьць, але нешта прост проціленжнае: няўжож можна лічыць праявай эгоістычнага інтарэсу самаахвярнасьць дзеля нацыянальнае справы, што не затрымліваецца нават перад ахвярай жыцьця? Праўдзівая любоў да бацькаўшчыны выяўляецца ў служэньні свайму народу, у жыцьці дзеля яго, у ахвяры самога сябе дзеля існаваньня народу і яго мэтаў. Як рэлігійным жыцьцём зьяўляецца зьліцьцё з Богам праз любоў да Бога, так жыцьцём патрыятычным ёсьць зьліцьцё з народным духам праз любоў да бацькаўшчыны». Але Фіхтэ, пламенны патрыот, быў адначасна апосталам брацтва народаў, як і вялікі польскі пясьняр, сын Зямлі Беларускае, Адам Міцкевіч, як Кернэр, Гэрдэр, Шыльлер, Гётэ, Штэйн, Шлейермахер і др. А праз сто гадоў пасьля яго, пасьля аб'яднання Нямецкага народу, навука Фіхтэ была ператворана прускім юнкерствам у пародыю ў пастаці гакатызму, адзнакамі якога сталіся нацыянальная пыха, захват і дэнацыяналізацыя слабейшых народаў і закаваны ў зялеза кулак... І ўсё-ж такі на груньце брацтва і ненавісьці, супрацоўніцтва і канкурэнцыі ўзрасла нацыянальная сьвядомасьць, вытварылася найбольш магутнае спаміж усіх згуртаваньняў людзей — Народ.

Публікацыя Арсеня ЛІСА.

* Фрагмент артыкула «Народ і дзяржава».




# ЦУДЫ БІБЛІІ Ў СВЯТЛЕ АГУЛЬНАЙ ТЭОРЫІ ПРЫРОДЫ

Альберт ВЕЙНІК,
доктар тэхнічных навук,
член-карэспандэнт АН Рэспублікі Беларусь



Па звестках Інстытута перакладу Бібліі ў Стакгольме, да 1986 года яна была перакладзена на 1848 моў. За апошнія тысячагоддзі Біблію чыталі і вывучалі мільярды людзей.

Здавалася б, што Біблія зведаная і вытлумачаная да апошняе кропкі, і нічога новага чакаць ужо немагчыма. Але не так даўно было зроблена ашаламляльнае адкрыццё. Яно належыць Івану Паніну, які мовай матэматыкі давёў, што Біблія надыктаваная Богам праз Святога Духа.

Іван Панін (1855 — 1942) нарадзіўся ў Расіі, вучыўся ў Германіі, пасля скончыў Гарвардскі універсітэт у ЗША. Калі адкрыў матэматычную абумоўленасць тэкстаў Святога Пісання, з'ехаў з жонкай жыць на маленькую ферму ў Канадзе, дзе на працягу пяцідзесяці год штодзённа знясільваў сябе над завяршэннем доказу сваёй гіпотэзы.

Сутнасць вынаходніцтва Івана Паніна ў наступным. Стары Запавет, надыктаваны старажытнагабрэйскай мовай, і Святое Дабравесце, надыктаванае грэцкай, — неверагодным чынам знітаваныя лічбай 7, як, дарэчы, і ўвесь сусвет. Згадаем, што ў месяцы 28 дзён (4х7), святло складваецца з сямі колераў, музычная актава з сямі поўных таноў і г.д.

Першы сказ Старога Запавету ("На пачатку стварыў Бог неба і зямлю") мае сем старажытнагабрэйскіх слоў, якія складаюцца з 28 (4х7) літар. Падобныя лічбавыя заканамернасці абдымаюць увесь тэкст Старога Запавету і Святога Дабравесця.

Болей за тое, у старажытнасці габрэі і грэкі лічбы пісалі літарамі альфабэту. Калі ў біблейскіх тэкстах на месцы літар паставіць лічбы, то атрымаецца аналагічны вынік. Напрыклад, калі ў трох назоўніках першага сказу (Бог, неба, зямля) замест літар ужыць лічбы, то мы атрымаем 777 (111х7). І гэта не асобае выключэнне, а правіла, якое ахоплівае граматычныя формы, значэнні і нават парадак кожнага слова і літары. Такім чынам, аказваецца, што ў кожнага слова, у кожнай літары маецца толькі адно, ёй прадвызначанае месца.

З тэорыі верагоднасці, якая з'явілася параўнальна нядаўна, матэматычна вынікае, што знойдзеныя ў структуры арыгінальнага біблейскага тэксту лічбавыя паслядоўнасці не маглі ўзнікнуць выпадкова (верагоднасць гэтага роўная нулю), а з'яўляюцца здзяйсненнем свядома падрыхтаванай задумы. Неабходна таксама падкрэсліць, што знойдзеная Іванам Паніным заканамернасць не сустракаецца болей ні ў якіх іншых тэкстах, у тым ліку і апокрыфах.

Такім, знешне простым, а ў здзяйсненні неверагодна складаным шляхам Бог абараніў сваё Слова ад якіх заўгодна чалавечых памылак, змен, дадаткаў. Не выпадкова Ісус Хрыстос гаворыць, што «ні водная ёта, ні водная рыса не пярэйдзе з закону, пакуль не здзейсніцца ўсё». А напрыканцы Бібліі мы сустракаем пагрозлівае папярэджанне: « ...калі хто адыме ад слоў кнігі прароцтва гэтага, у таго адыме Бог права ўдзелу ў кнізе жыцця...»

Адкрытую ім лічбавую структуру Бібліі Іван Панін паспяхова скарыстаў для выпраўлення тых памылак, якія там апынуліся з-за чалавечае недасканаласці. Вынікам гэтай тытанічнай працы сталіся дзве кнігі Святога Дабравесця, надрукаваныя на грэцкай і ангельскай мовах.

Усё папярэдне сказанае мае самае непасрэднае дачыненне да створанай мной Агульнай Тэорыі Прыроды.* Упершыню фізічная тэорыя была пабудаваная на такім абсалютна дакладным грунце, як прадыктаваны Богам тэкст.

Распрацоўка АТ (Агульнай Тэорыі) пачыналася з дэшыфравання наступных слоў першага раздзелу першай кнігі Майсея: «І стварыў Бог цвердзь... І назваў Бог цвердзь небам».

Дзіўныя словы! Касмічны вакуум, які мае нулявое супраціўленне і ва ўсе часы лічыўся прыкладам абсалютнай пустаты, названы цвердзю. Абсурд? Але гэтыя словы вымаўленыя Богам і, значыць, яны абсалютна дакладныя, і касмічны вакуум сапраўды валодае якасцямі цвёрдага цела. Паспрабуем у гэтым разабрацца.

У космасе вакуум адыгрывае ролю прасторы, якая аддзяляе адныя аб'екты ад другіх, а значыць, ён мае якасць працягласці, інакш усе аб'екты калісьці павінныя былі б з'яднацца паміж сабой. Перашкодай гэтаму служыць прастора, яе якасць працягласці. Але якасць працягласці можа мець толькі рэчыва, а не пустэча — не «пустая скрыня без сценак», як часам думаюць. Зыходзячы з гэтай





высновы, пад прасторай трэба разумець нейкае метрычнае рэчыва, галоўнай адзнакай якога з'яўляюцца працягласць і месца палегласці (Ньютан). Пад месцам палегласці разумеецца немагчымасць двух аб'ектаў займаць адно і тое самае месца: першы аб'ект можа апынуцца на месцы другога толькі праз выцясненне апошняга...

Кожнае рэчыва надае аб'екту свае спецыфічныя якасці, пагэтаму адсутнасць у складзе аб'екта метрычнага рэчыва пазбаўляе яго якасці працягласці, ён робіцца па-за метрычным, па-за прасторавым, усюдыпраніклівым, як бы «распэцканым» па аб'ёму прасторы, усюдыісным, нябачным і неадчувальным.

Другое асновалеглае значэнне АТ узнікла шляхам дэшыфроўкі тых біблейскіх тэкстаў, дзе паўтараецца думка, што у «Госпада адзін дзень, як тысяча год, і тысяча год, як адзін дзень», і што «часу ўжо не будзе».

Час тут выступае ў якасці характарыстыкі, якая можа мяняцца, як бы пашырацца і сціскацца ў надзвычай шырокіх межах да адсутнасці самой сябе. Гэта таксама магчыма толькі ў тым адзіным выпадку, калі за час адказнае нейкае хранальнае рэчыва, якое надае аб'ёмам, у склад якіх уваходзіць, якасці працягласці і месца палегласці, бо менавіта працягласць можа быць наколькі заўгодна расцягнутай і сціснутай. Месца палегласці вызначаюць прычынна-наследныя сувязі, калі падзеі адбываюцца адна за другой, адна выклікае другую. Адсутнасць хранальнага рэчыва робіць аб'ём па-за хранальным, па-за часовым, вечным. А значыць, час таксама нельга параўноўваць з «пустой скрыняй без сценак».

Такім чынам, самыя галоўныя характарыстыкі нашага хранальна-метрычнага свету, якія валодаюць якасцямі працягласці і месца палегласці, вызначаюцца нейкімі спецыфічна простымі рэчывамі — метрычнымі і хранальнымі. У сувязі з гэтым мною было выказана меркаванне, што і астатнія простыя з'явы: ратацыйныя, вібрацыйныя, цеплавыя, электрычныя, магнітныя і г.д. — нараджаюцца знітаванымі з аднайменнымі спецыфічнымі рэчывамі. Гэтая гіпотэза знайшла сваё падмацаванне ў доследах. У выніку былі матэматычна сфармуляваны асновы АТ у выглядзе наступных фундаментальных законаў альбо іх пачаткаў, якім павінен падначальвацца наш хранальна-метрычны свет: захаванне энергіі, захаванне колькасці рэчыва, стану, узаемнасці, пераносу, уцягнення і абагульненага зараджвання (плюс— і мінус— «трения»). Заўважу, што другі, трэці, чацвёрты і сёмы закон — новыя. Дарэчы, з закону захавання колькасці метрычнага рэчыва, мерай якога з'яўляюцца памеры і маса, вынікае, што неба — гэта абсалютна цякучы касмічны вакуум — сапраўды няздольны мяняць свае памеры, сціскацца ці пашырацца, гэта значыць, валодае якасцямі абсалютна цвёрдага цела, ці цвердзі, як пра тое гаворыцца ў Бібліі...

Так Біблія ўпершыню дапамагла пабудаваць тэрмадынамічную тэорыю, самыя нечаканыя высновы якой знайшлі ўсебаковае доследнае пацвярджэнне, што сведчыць аб правільнай расшыфроўцы (разуменні) згаданых вышэй тэкстаў. Маючы пад сабой падмурак такой надзвычай высокай агульнасці і сапраўднасці, АТ у сваю чаргу атрымала магчымасць вырвацца з традыцыйнага кола «жалязяк» і адначасна значна пашырыць пералік натуральнанавуковых біблейскіх тэкстаў, якія раней былі незразумелымі і выклікалі сумненні ў няверНікаў, а цяпер набылі простыя і ясныя фізічныя тлумачэнні. Галоўная заслуга ў гэтым належыць невядомым раней метрычным і хранальным з'явам, непасрэдна падказаным Бібліяй.

З метрычнымі і хранальнымі з'явамі звязаны самы цікавы прагноз АТ — пра існаванне ў прыродзе тонкіх (піка-) і звыштонкіх (фемта-) светаў і аб'ектаў, што падмацавана адпаведнымі эксперыментамі. Тонкія аб'екты валодаюць якасцямі, пра якія ў Бібліі гаворыцца адносна да душаў, а звыштонкія — адносна да духаў. Піка-аб'екты (душы) маюць пэўныя памеры і масу ад некалькіх да некалькіх дзесяткаў грамаў, гэта значыць, што маюць некаторыя якасці нашага хранальна-метрычнага свету, але яны ўжо нябачныя і здольныя пранікаць скрозь сцены і іншыя перашкоды. Фемта-аб'екты (духі) належаць пазахранальнаму і пазаметрычнаму свету, існуюць па-за часам і прасторай, а значыць, яны нябачныя і ўсюдыісныя, бо не ўтрымліваюць у сабе метрычнага рэчыва.

Памеры і масу, гэта значыць бачнасць, надае аб'ектам толькі метрычна простае рэчыва. Усе астатнія вядомыя рэчывы (хранальнае, ратацыйнае, вібрацыйнае, цеплавое, электрычнае, магнітнае і г.д.) валодаюць кожны сваімі спецыфічнымі і недасяжнымі для іншых рэчываў непаўторнымі якасцямі, імі яны надзяляюць целы, у склад якіх уваходзяць. Аднак памераў і масы гэтыя рэчывы не маюць, і пагэтаму яны і створаныя з іх целы павінныя ўспрымацца намі, як «нішто». У сувязі з гэтым робяцца зразумелымі тыя тэксты Бібліі, дзе ўжываюцца два старажытнагабрэйскія словы: «бара», якое азначае «стварыць з нічога» і «асса» — «стварыць, сфармаваць, зрабіць з наяўнага матэрыялу». Слова «бара» выкарыстоўваецца ў Бібліі ўсяго тры разы: у аповедзе пра першы творчы акт ("На пачатку стварыў Бог неба і зямлю"), затым пры стварэнні «душы жывой» — першых жывёл і пры стварэнні чалавека. Ва ўсіх астатніх выпадках ужываецца слова «асса». Гэта значыць, што ў першых трох выпадках зыходнымі былі пазаметрычныя, нябачныя ("нішто") рэчывы. Такое тлумачэнне мацуецца наступнымі словамі: «з нябачнага стварылася бачнае».

Улічваючы метрычны і хранальны характар светабудовы, можна растлумачыць усе самыя загадкавыя фізічныя асаблівасці АЗ (Анамальных З'яваў), а таксама і тыя біблейскія тэксты, якія звычайна выклікаюць непаразуменні: як гэта «Філіпа ўсцешыў Анёл Гасподні, і еўнух ужо не бачыў яго, і працягваў свой шлях, радуючыся. А Філіп апынуўся ў Аэсце»; як гэта падчас патопу ў параўнальна невялікі каўчэг прапаведніка Ноя магло змясціцца такое мноства «пар чыстых і нячыстых» разам з патрэбным для іх кормам; як гэта кіт са сваім вузкім горлам мог праглынуць Іону; як гэта пры бойцы ў Гаўаоне «стаяла сонца пасярод неба і не спяшалася на захад амаль увесь дзень»?

Згодна АТ, у гэтых і шматлікіх іншых біблейскіх гісторыях няма нічога дзіўнага, бо ўсе метрычныя і хранальныя з'явы гэтаксама паддаюцца кіраванню, як вярчэнне, вібрацыя, цеплыня, электрычнасць, магнетызм...

Насампраўдзе, нам добра вядомыя паняцці экранізацыя, ізаляцыя. Напрыклад, адасобіўшы зараджанае электрычнасцю цела дыялектрыкам, мы пазбаўляем гэтае цела магчымасці выяўляць у асяроддзі свае якасці, пры гэтым электрычны зарад і патэнцыял самога цела ўнутры ізаляцыі застаюцца нязменнымі. Відавочна, што ў прынцыпе магчыма больш-менш паспяхова ізаляваць якое заўгодна цела ад пранікнення ў яго любога простага рэчыва, у тым ліку метрычнага і хранальнага. Гэта агульны закон, справядлівы для ўсіх простых з'яў, і з яго не можа быць выключэння... Адасобіўшы Філіпа па-за метрычнай абалонкай, Анёл зрабіў яго знешнія памеры і масу роўнымі нулю і змог перасунуць яго скрозь усе перашкоды з патрэбнай хуткасцю (эфект тэлепартацыі) адно ўздзеяннем сваёй думкі, бо думка таксама матэрыяльная і валодае сілавымі якасцямі, што мне даводзілася неаднойчы назіраць падчас маіх эксперыментаў. Аналагічная ізаляцыя ўнутраных памяшканняў каўчэга і Іоны здымае праблему «пар чыстых і нячыстых» і шырыні горла ў кіта.

Кіраваць рухам часу значна прасцей, чым рухам прасторы. На падставе доследаў я выснаваў прынцып безапірышчнага руху, які, парушаючы закон захавання колькасці руху, адбываецца «пад уздзеяннем унутраных сіл» (так барон Мюнхаўзен выцягнуў з балота сябе разам з канём за валасы). Біблейскае кіраванне часам у грандыёзных маштабах дазволіла запаволіць рух сонца па небасхілу, а ў лакальных выпадках — «вырашыць» праблему харчавання «чыстых і нячыстых» шляхам скарачэння для іх перыяду патопу да некалькіх гадзін ці хвілін...

У лабараторных умовах змяніць ход часу даволі проста. Напрыклад, калі адпаведны працэс, які перыядычна паўтараецца, здзейсніць у безапірышчным рухавіку; ход часу змяняецца таксама у хранальных вымяральных прыборах і г.д.

Аднак самае цікавае і важнае заключаецца ў тым, што ўсе фізічныя, хімічныя, біялагічныя (разам з мысленнем) і іншыя працэсы адбываюцца з выпраменьваннем хранальнага поля, якое ўтрымлівае ўсю інфармацыю пра гэтыя працэсы. Значыць, усе нашыя пачуцці, думкі, жаданні, памкненні, намеры, здзяйсненні прысутнічаюць у асяроддзі ў форме пэўных хранальных структур. Пагэтаму не трэба здзіўляцца, што «Гасподзь ведае думкі чалавечыя» і «ўсе рухі думак». Больш за тое, там, за межамі хранальнай прасторы, Бог бачыць усе нашыя мінулыя, сучасныя і будучыя думкі, словы і ўчынкі адначасна.

---

* Вейник А.И. Термодинамика реальных процессов. Минск. «Навука і тэхніка». 1991.

Артыкул друкуецца ў скарочаным варыянце.